Падарожжа

ў

# Эўрапейскую Расію

у 1840 і 1841 гадах

Ад

Ё. Г. Блазыюса,
Прафесара Каралінскага каледжа ў Браўншвайзе.

Два тома.

Другі том.

## Падарожжа на поўдні.

З 13 меднымі гравюрамі і надрукаванымі ў тэксьце дрэварытамі.

Браўншвайг,
Выдавецтва Рыгора Вэстэрмана
1844.



Уніяцкая царква ў Віцебску

# V
# “Ваколіцы Дзьвіны”

...............

Пакуль мы назіралі за шматлікімі мінаючымі габрэямі, якія сьвяточна шпацыравалі наўкол, і гатавалі абед, надыйшла ноч. Апошнія 40 вёрст мы праехалі ўва сьне ў цемры, і прыбылі ў Віцебск у нядзелю, 29га верасьня, каля 2х гадзін ночы.

Віцебская губэрнія разам з Магілёўскай у 1772 г. падчас першага падзелу Польшчы перайшла на рускі бок. Будучы аб’яднанымі ў 1796-1802 пад назвай Беларусія, а потым падзеленымі на 2 губэрніі, у 1835 г. абедзьве страцілі свае старыя літоўскія адміністратыўныя парадкі і законы і былі цалкам аб’яднаныя з Расіей. Нават царкоўныя адрозьненьні, якія закраліся падчас польскага панаваньня, былі выдаленыя ўсяго некалькі год таму. Такім чынам, па меншай меры зьнешне, усё даведзена да аднастайнасьці.

Насельніцтва абедзьвух губэрняў у кожным дачыненьні вельмі блізкае да смаленскага. Тут разьвіліся аднолькавыя са Смаленшчынай адрозьненьні ад маскавітаў у дачыненьні да зьнешняга выгляду, строяў і схільнасьцей. І нават у яшчэ большай ступені, бо гэтыя раёны амаль заўсёды заставаліся незалежнымі ад Вялікага Княства і ад Царства і разьвіваліся альбо самастойна пад уласнымі князьямі, альбо пераважна і вольна пад уплывам Літвы і Польшчы. Таксама нават і цяпер вялікарускі уплыў і іміграцыя тут маюць яшчэ меншую істотнасьць, чым на Смаленшчыне.

Можна лічыць наступствам польскага панаваньня і адносін, якія прыйшлі пасьля яго, той факт, што ані ў якой іншай маленькай частцы Расіі насельніцтва не знаходзіцца на настолькі розных ступенях адукацыі, як тут.

Астатняя Расія спрадвек фарміравалася настолькі аднастайна, што немагчымы былі аніякія адрозьненьні; і ступень яе адукацыі лёгка вымяраецца паводле яе інтэлектуальнай патрэбы. Школьная адукацыя, нават калі яна дзесьці ці калісьці была наўмысная, пакуль яшчэ нідзе не ўвайшла ў народ. Таксама і народная адукацыя, якая паходзіць ад аўтаматычнай дрэсіроўкі, можа быць дасягнутая паўсюль толькі праз выхоўваньне дасьведчаных настаўнікаў. Сапраўдная народная адукацыя ёсьць справа, якая ня можа быць

выкананая аднымі толькі загадамі, і якой дасягаюць толькі праз шэраг пакаленьняў. Расія знаходзілася б на зусім іншай ступені народнай адукацыі, каб яе сьвятарства было здольнае і схільнае пашырыць сваю ўплывовасьць на народ за межы царкоўных мэтаў, пакуль паступова не сфарміруецца асобны, самастойны і незалежны ад царквы настаўніцкі склад.

Дастаткова толькі маленькага веданьня зямлі і аднабокага параўнаньня народных станаў, каб пераканацца ў тым, што інтэлектуальныя патрэбы мясцовага насельніцтва нават цяпер яшчэ пераўзыходзяць маскавіцкія. Віцебск і Магілёў маюць у параўнаньні істотна большую колькасьць вольных школьных устаноў, чым іншыя губэрніі. Шмат зь іх зьявіліся на сьвет праз намаганьні сьвятарства; шматлікія іншыя, і нават больш высокія навучальныя ўстановы, існуюць у якасьці прыватных фондаў; і нават звычайная колькасьць гімназій, якіх кожная губэрнія па закону мусіць мець 1, тут істотна перавышаная.

Не будзе тут памылковай паралель, калі нават яшчэ і не звычайная сувязь, з ранейшым царкоўным станам. Да апошняга аб’яднаньня ў грэка-праваслаўную царкву з хрысьціянскага насельніцтва недзе палова адносілася да ўніятаў, чвэрць да каталікаў і такая самая частка да грэцкай царквы.

Тут у якасьці іншай часткі польскай спадчыны Расія мусіла атрымаць жыдоў. Расія мае іх у Польшчы і старых польскіх правінцыях амаль мільён, а ўся астатняя Эўропа мае каля 1,5 мільёна. У тыя часы, калі праз законы і люты перасьлед амаль кожная краіна Эўропы выганяла ад сябе гэты няшчасны народ, жыды знайшлі прыбежышча ў Польшчы. Тут, паміж напаўцывілізаванымі і зусім не цывілізаванымі народамі, не будучы выгнанымі паводле закону яны яшчэ маглі, хаця таксама не без жорсткіх пагромаў, сьледаваць толькі ім магчымаму чыну здабычы, гандлю і ліхвярства. Яны паступова запоўнілі пустэчу паміж вольнымі панамі і жабракамі ці сялянамі, якія ў астатняў Эўропе прынялі стан вольных грамадзян. Хаця іх шляхі таксама не заўсёды мелі аднолькавы кірунак, лёс польскіх жыдоў цяпер унутрана зросься з лёсам няшчаснай нацыі герояў, якая не была дастаткова моцнай і самастойнай, каб самой выбіраць кірунак, і якая адкрылася ўсім інтрыгам і чужым інтарэсам езуітызму.

Тое, што жыды пераважна памножыліся ў польскіх правінцыях, у якіх яны знайшлі другую запаведаную зямлю, было цалкам натуральна. Мала верагодна, што іх слава будзе працяглай; ня важна які шлях пад рускім панаваньнем абярэ іх спрытнасьць.

Віцебску прыпісваюць каля 16 000 жыхароў, з якіх недзе больш за палову мусяць быць ізраэлітамі. Суадносіны, якія маюць відавочны ўплыў на аблічча горада і якія наадварот, можна заўважыць ужо па жыцьцю і руху на вуліцах.

Ранкам у нядзелю пад час снеданьня мы назіралі за цэнтральнай вуліцай і чалавечым натоўпам на ёй з вакна нашага пакою. Вуліца кішэла людзьмі з абодвух бакоў, а ў цэнтры па ёй цягнулася чарада вазоў, што цясьніліся адзін да аднаго: і больш за палову мінакоў і праезжых складалі жыды. Рускіх ў нацыянальных строях, якія адны толькі напаўняюць вуліцы ў іншых рускіх гарадах, трэба было пашукаць. Але значна часьцей за іх сустракаліся польскія строі і ўніформы паліцыі і вайскоўцаў.

Магчыма гэта было простай выпадковасьцю, што не малаістотная частка нацыянальных строяў, якая прайшла пад нашым акном, складалася з прыкаваных адзін да аднаго арыштантаў. Адна працэсія складалася з васьмі чалавек, брудных, няшчасных і абарваных, з падарожнымі мяшкамі за сьпіной і з усіх бакоў, ня гледзячы на кайданы, аточаных салдатамі з зараджанай зброяй, што з рогатам і жартамі гаманілі паміж сабой. Каля другой працэсіі, якая ішла цалкам басанож па глыбокаму вулічнаму бруду, ішла побач толькі адна незьвязаная жанчына. Каля трэцяй працэсіі, побач са зьвязанымі мужчынамі ішло шмат жанчын з маленькімі дзецьмі на руках і каля грудзей, нязьвязаных, але аточаных салдатамі. Мне падалося гэта праявай гуманізму і ўвагі да слабага полу і нявіннага дзяцінства. Аднак не на доўга, бо я ўбачыў таксама і зьвязаных жанчын з іх дзецьмі на руках.

Здаецца нідзе ў Эўропе жыды не ўкараніліся настолькімі разнастайнымі чынамі, як тут. У самой Палестыне яны ніколі не маглі б аддавацца настолькі разнастайным заняткам. Шмат зь іх цягаюцца паўсюль з усімі магчымымі прадметамі гандлю: старай вопраткай, новымі капялюшамі, з курамі, рыбай, гароднінай і ўсім, што каштуе грошай. Аднак кожны гандлюе толькі адным адзіным прадметам. Ніводны не прапанаваў набыць капялюшы розных формаў. Тут столькі шмат людзей з правам на гандаль, што манаполія мусіла паменшыцца да бясконцасьці. Іншыя жыды валодаюць лаўкамі і сваім заняткам не закранаюць вуліцу. Неверагодна шмат хто сядзяць перад сваімі дзьвярыма, альбо на рынках і вуліцах, за маленькім складным столікам памерам недзе ў 2 квадратных фута, на якім яны ўпарадачылі ў радок свае манеты. Рэдка калі ўвесь запас складае больш за некалькі рублёў, а на большасьці сталоў бачныя толькі медзякі. Незразумела, як падобны занятак можа пракарміць чалавека ці сямью.

Разам з гэтым, аднак, вулічныя і іншыя грамадскія заняткі не забраныя ў ізраэлітаў, як у шматлікіх іншых мясьцінах. Вялікая колькасьць жыдоў сустракаецца ў якасьці фурманаў на быках і конях, шмат на чужой службе, у якасьці лёкаеў і падзёншчыкаў, ці ў якасьці сялян, якія вязуць у горад свой ураджай. Жыдам тут пад пэўнымі ўмовамі вылучылі дробныя ворныя вёскі, дзе габрэі супернічаюць з рускімі ў вядзеньні гаспадаркі. Тым, якія ў падобных занятках не ўзьняліся да быка ці каня, служаць тачкі, а іншым дзіцячыя вазкі, на якіх яны транспартуюць на кароткія адлегласьці бочкі і таму падобнае.

Нават рамёствы тут не чужыя ізраэлітам. Каля процілеглага дому мы бачылі жыда, у якасьці шкляра, занятага ўсталяваньнем аконных шыбаў; другога, у якасьці цесляра, ідучым цераз вуліцу з тапаром і транспарцірам. Аднак падобныя выпадкі рэдкія. Праца, якой яны хутчэй аддаюцца, не мусіць залішне патрабаваць фізічнай сілы. Таму ўсе жадаюць па магчымасьці граць ролю прадстаўніка ці Factotum-а у нейкім гасьцінным доме. Пры гэтым яны мусяць размаўляць, гандляваць, бегаць, разносіць карэспандэнцыю і таму падобнае, і ўсё гэта яны выконваюць з найвялікай спрытнасьцю і ўпартасьцю, і радуюцца неістотнаму прыбытку.

Вельмі рэдка можна ўбачыць апранутага ў шоўк і каштоўнае футра ізраэліта, што едзе па вуліцам на дрожках; і падобныя нязьменна моцна ўпрыгожаныя ордэнамі і дакладна, калі тут існуе падобнае, ушанавыя тытулам камерцыйнага дарадчыка.

Аднак, якімі б разнастайнымі не былі заняткі тутэйшых ізраэлітаў, іх строі паўсюль аднастайныя. Усе мужчыны ходзяць у чаравіках і спачатку белых панчохах, у кароткіх нагавіцах з цяжкай аксамітнай тканіны і доўгай, зьвісаючай да ног, зморшчанай, высока падпаясанай рызай. З надыходам зімы гэта пакрываецца яшчэ футрай, ці тоўстай, доўгай накідкай з футравым каўнерам, у рукавах якой, ці пад яе аховай на сьпіне, рукі хаваюцца ад марозу. Просты, ці перагнуты назад футравы капялюш з моцнымі футравымі валікамі для вушэй пакрывае галаву, валасы якой коратка падстрыжаныя і схаваныя пад шчыльна прыстасаванай, толькі з-заду пад футравым капялюшам бачнай ярмолкай. Толькі доўгі локан валасоў зьвісае з кожнага боку перад вушамі па бледным шчакам да грудзей. Таксама рэдка які падбародак не мае частка даўжынёй у фут казлінай бародкі, якая таксама служыць вопраткай для шыі. Той жыд, які карыстаецца гальштукам, ці падцяжкамі, будзе разглядацца сваімі братамі як ерэтык і рэфарміст. Той, хто кранаў нажом сваю бараду, таму ў будучым жыцьці чорныя быкі вырвуць апаганеную бараду.

Таксама і жыдоўкі без выключэньняў апранаюцца аднастайна. Вузкая, шчыльна падпаясаная пад плячыма сукенка з так сама высока зашнураванай, цесна прылягаючай накідкай, якая з-заду дапоўненая шырока зьвісаючым каўнерам, пакрывае цела, а вялікая, замотанная накшталт цюрбану хустка, галаву. Замужным жыдоўкам забараняецца паказваць свае валасы; незамужныя носяць спадаючую назад доўгую касу.

Толькі тыя ізраэліты, што займаюцца сельскай гаспадаркай, маюць, не закранаючы галавы і барады, падобны да рускага выгляд. Тонкія фігуры і файныя строі жыдоў дзіўна кантрастуюць з грубай ваўнянай вопраткай рускіх сялян. Аднаверцы лічаць іх, таксама як і рамесны кляс, парыямі, і яны адназначна належаць да найбольш няшчаснай часткі насельніцтва, бо нават рускія з пагардай цураюцца іх, пакуль, што аднак часта адбываецца, не трапляюць у нейкую ступень залежнасьці ад іх.

Вялікая галеча і цесната прыводзяць да таго, што шмат іх бадзяецца абарванымі і абшарпанымі, і амаль усе брудныя да млоснасьці. Аднак зручнасьць у чыстке, альбо ў большай меры нечыстке вопраткі таксама зноўку зьяўляецца рэлігійным прынцыпам. Нават багатыя і заможныя вераць, што парушаюць закон, калі яны чысьцяць свой абутак.

Нешта ёсьць няёмкае ў гэтай заклапочанасьці і пасьпешнасьці, з якімі яны крочаць па вуліцах з ранку да вечара, без унутранага спакою і раўнавагі, заўсёды самотныя, ніколі па двое ці са спакойнай размовай, нібыта Агасфер ганімы ўнутраным дэманам, толькі па вузкаму, штодзень аднолькава паўторнаму кругу. Пры гэтым з іх жывых, бліскучых вачэй і чужога, прывіднага выразу іх рысаў, да чаго так добра пасуе састарэлае, напаўусходняе адзеньне, зьзяе бязьмежная добразычлівасьць і надзейнасьць, пакуль гаворка не йдзе пра гандаль і торг. Калі ёсьць такі народ, які цалкам пераадолела гарота і прыгнёт жыцьця, то гэта мясцовыя жыды.

Дзелавая актыўнасьць і жвавасьць жыдоў пераўзыходзіць усе аналагі. Яны дасягаюць незвычайнага посьпеху не праз ганарыстую моц рускіх, але праз бязьмерную цярпімасьць, маўклівасьць і сьпех. Той, хто ў рускім горадзе шукае рэчы, якія не ў кожнага на слыху, можа безвынікова бадзяцца на працягу гадзін і дзён. Калі рускі ня ведае шукаемы аб’ект, то ён прынясе сто іншых рэчаў, якія ён выдасьць за запытаную, ці запакоіць сябе сваім няведаньнем. У жыдоўскім горадзе дастаткова паведаміць свае пажаданьні прадстаўніку гасьцінага дома, які заўсёды зьяўляецца жыдом. Ён дакладна разумее, аб чым ідзе гаворка, ідзе на вуліцу і пытаецца ў першага жыда, які йдзе побач: ці можаш ты мне здабыць тое, ці гэтае, альбо гэнае? Той дакладна наводзіць спраўкі, а калі ён не ў стане, то яны такім чынам пытаюцца ўжо ўдвох далей. За некалькі хьвілін пажаданьне разыходзіцца па тысячам галоў і праз увесь горад па ўсім напрамкам. Калі гэтая рэч яшчэ хоць недзе захавалася; то ў максімальна кароткі час яна зьяўляецца з усіх магчымых бакоў. Кожны сьпяшаецца быць першым, хто зробіць гандаль.

Калі параўнаць экстрэмалі пабудовы аблічча жыдоў, то можна яскрава заўважыць два расавыя адрозьненьні. Адна раса мае файны, востры, загнуты нос, раўнамерную пабудову аблічча, файную скуру і мяккі колер твару, які зьмяняецца ад здаровай прыгожай ружовасьці да хворай, сіняватай бледнасьці. Калі б яны ўсе не насілі галаву настолькі сагнутай, то яны б належылі да найпрыгожых людзей, якія толькі вядомыя. Дзяўчыны ў сярэднім надзеленыя рэдкай прыгажосьцю; аднак іх нежныя целы не створаныя для жорсткіх непрыемнасьцей і лішэньняў іх новай радзімы. Ужо ў рухі маладых жанчын неміласэрна закрадаюцца клопаты і іх бяздушная, поўная тугі паглыбленнасьць у справы, і гэта хутка зьнішчае кожны ўспамін пра кароткае квітненьне і кароткую маладосьць. У запалёных, мокрых вачах старыкоў і ў іх зацьвярдзелых, застылых рухах ніяк немагчыма пазнаць тых прыгожых людзей.

Другая раса – негрападобная, з шырокім, амаль сплюшчаным носам, тоўстымі, шырока вывернутымі і моцна выпіраючымі пасінелымі вуснамі і бяскроўнымі, плоскімі вушамі без краёў. Колер іх твару шэры, ці шэра-карычнявы, а скура і язык грубыя і жорсткія. Большы ўзрост здаецца дадае некаторым зь іх у твар медзі, хаця няма падставы думаць пра празьмернасьць нейкага тыпу. Усе яны выродлівыя, асабліва аднак жанчыны, шмат якіх бадзяюцца па публічным вуліцам кормячы грудзямі сваіх немаўлят. Да гэтай расы адносяцца рэдкія выпадкі паўнаты ў сталым узросьце.

Паміж сабой жыды размаўляюць па нямецку; магчыма таму што яны адчуваюць сябе блізкімі да нямецкай душы. Аднак Нямеччына са сваімі перасьледамі жыдоў, крыжовымі паходамі супраць жыдоў і зачыненымі жыдоўскімі раёнамі значна менш заслужыла гэткую прыхільнасьць, чым Польшча. Нямецкая мова жыдоў падобная да нямецкай па большасьці толькі словамі, але не іх значэньнем, і разумеецца іншымі народамі так сама як і немцамі. Вось, сярод іншага хата называецца: a Stub‘ {*па нямецку гэта слова азначае памяшканьне*}, а мураваны дом: a Mauer {*па нямецку гэта мур*}. Вялікая колькасьць выразаў у жыдоўскай мове складаецца з зусім арыгінальных, правінцыйных вынаходак, якія не належаць ніякай іншай мове.

Калі мы захацелі выйсьці, паглядзець горад, аказалася вельмі цяжка рухацца пеша па глыбокім вулічным брудзе, асабліва пры тым, што яго толькі намераваліся прыбраць. Здаецца домаўласьнікі абавязаныя трымаць чыстымі вуліцы і плошчы ў сваім навакольлі; гэта можна было заключыць па меншай меры з паводзін паліцыі. Узброеныя моцнымі дубцамі паліцэйскія салдаты бегалі ад хаты да хаты і па вуліцам, выцягвалі тут за валасы, там за бараду да дзьвярэй дому на працу і прадзіраліся там з ударамі ва ўсе бакі скрозь чалавечае скапленьне дзеля падбадзёрваньня публіцы, што займалася чысткай вуліц. Усе тут працавалі і падмяталі ў перамешку, жыды і хрысьціяне, мужчыны, жанчыны і дзеці, аднадушна аб’яднаныя пад міласэрным скіпетрам паліцэйскага дубца таўшчынёй з руку, і ніхто не адважваўся нават на хьвіліну ухіліцца ад працы. Усе людзі не выглядалі так, каб гэтая варварская жорсткасьць была неабходнай.

Ад жабракоў, асабліва ад жабрацкіх малых дзяцей, гудуць вуліцы. Шмат вельмі маленькіх і асабліва шмат гарбатых жыдоў з вялікім намаганьнем спрабуюць праціснуцца далей скрозь чалавечую таўкатню. Нідзе ў Расіі я не бачыў у адным месцы столькі гарбатых і нямоглых, як сярод тутэйшых жыдоў. Сярод рускіх вельмі рэдка сустракаюцца гарбатыя і нямоглыя.

Віцебск мае ў высокай ступені маляўнічае разьмяшчэньне. У цэнтры горада В і ц ь б а, што цячэ з поўдня, аб’ядноўваецца з Дзьвіной. Неістотная частка горада ляжыць у глыбіне на правым беразе Дзьвіны; найпрыгожыя будынкі і большасьць найістотных цэркваў стаяць на вышыні на левым беразе Дзьвіны па абодва бакі ад Віцьбы.

Люстра Дзьвіны тут мае вышыню 364 фута, а галоўная частка горада сярэднюю вышыню 442 фута. Найбольшыя ўзвышшы ўздымаюцца да 500 футаў над узроўнем мора. Зьніжэньне Дзьвіны ад Веліжа да Віцебска складае недзе 160 футаў.

Віцьба вымыла глыбокія, вузкія даліны са стромкімі схіламі, якія прапаноўваюць у сярэдзіне горада нечаканейшыя супрацьлегласьці. Яшчэ ў межах горада даліна Віцьбы падзяляецца на дзьве бакавыя даліны, якія аднолькава абмяжоўваюць горад на поўдзень.

Позірк на Віцебск шмат губляе праз раскіданасьць асноўных групаў і праз тое, што нізіны, якія іх спалучаюць, запоўненыя толькі бязладнымі кучамі друзу, цёмнымі хатамі, гаротнымі, распадаючыміся і разваліўшыміся жыдоўскімі селішчамі і шматгадовым брудам.

Галоўнай часткай горада зьяўляецца паўднёва-ўсходняя, паміж левым берагам Дзьвіны і правым берагам Віцьбы. Усе яе цэнтральныя вуліцы бягуць паралельна Дзьвіне і сканчаюцца, усе акрамя адной, на схіле даліны Віцьбы. У гэтай частцы горада стаяць грамадскія будынкі, вялікія плошчы, гандлёвыя залы і праменады на ўзгорку берага Дзьвіны. Вакол горада і ў прадмесьцях стаяць амаль толькі жыдоўскія жыльлі.

Калі агледзіць з нейкага ўзвышша цалкам увесь горад, то ён падасца заўважна адрозным ад усіх рускіх гарадоў, якія я бачыў раней, праз яго вялікія і своеасаблівыя цэрквы. Толькі дзьве цёмныя драўляныя цэрквы па абодва бакі Дзьвіны, найгоршыя і найменш істотныя сярод іншых, пабудаваныя яшчэ ў характэрным для Расіі стылі: з грэцкім крыжом і пяцьцю купаламі і вежамі. Гэта тыя, што ўжо даўно належылі да праваслаўнай грэцкай царквы.

Усяго толькі тры царквы зьяўляюцца каталіцкімі і цалкам пабудаваныя ў стылі, які ўва стольках шматлікіх мясьцінах прывілі езуіты. У аналягічным стылі відавочна былі першапачаткова пабудаваныя, і нават часткова яшчэ захаваліся, таксама і ўніяцкія цэрквы. Шмат у якіх з гэтых уніяцкіх цэркваў былі праведзеныя позьнія перабудовы, з-за якіх яны маюць заўважныя супярэчнасьці ў камбінацыі сваіх формаў.

Шмат з гэтых цэркваў пабудаваныя ў форме прамавугольніка, іншыя ў форме няроўнабаковага крыжа. Прадоўжны кірунак ідзе з захаду на ўсход, і галоўны алтар, ці іканастас, зьмешчаны на ўсходзе, а галоўны ўваход на захадзе. Паабапал ад гэтага галоўнага парталу знаходзяцца дзьве царкоўныя вежы. Калі абрысам зьяўляецца прамавугольнік, то дах нэфа на ўсходзе завяршаецца нізкай вежачкай. Калі аднак абрысам зьяўляецца крыж, то над перакрыжаваньнем нэфаў звычайна стаіць велізарны купал, які ў большасьці выпадкаў выкананы ў іншым, чым фасадныя вежы, архітэктурным стылі і дзіўна супрацьстаўляецца ім і астатняй царкве.

Гэтыя адрозныя купалы над крыжамі здаецца былі па-большасьці усталяваныя ў позьнія часы і зьяўляюцца таксама патрэбай рускага духавенства, хаця цэрквы самі па сабе былі створаныя езуіцкім. Толькі пасьля таго, як панаваньне езуітаў тут скончылася, былі, здаецца, надбудаваныя купалы. Гэтыя купалы мелі мэтай русіфікаваць цэрквы. Толькі ў найновых цэрквах гэтага тыпу купал знаходзіцца ў гармоніі з астатнім будынкам, і абодва здаюцца тут пабудаванымі адначасова.

Больш старыя цэрквы гэтага тыпу вылучаюцца багацьцем барочных арнамэнтаў на вежах, франтонах, вокнах і дзьверах, якія як мінімум надаюць усяму будынку цудоўную ладнасьць. Купалы на гэтых цэрквах вылішаныя ўсялякіх дэталей арнамэнту і альбо цалкам безхарактарныя, альбо маюць на ўвазе намяшаць у арнамэнце мадэрнізаваныя грэцкія і рымскія архітэктурныя элементы. Тут нават царкоўны стыль мае палітычны характар, і гэта ў краіне, у якой палітычнае выхаваньне атрымлівае такое неўхваленьне. Гэты палітычны характар цэркваў добра тлумачыць іх архітэктанічнасьць: палякі пабудавалі цэрквы, а рускія іх палепшылі, альбо яны нават яшчэ ў залежныя апошнія часы польскага панаваньня былі палепшаныя рускім духавенствам.

Таксама і новыя цэрквы, якія тут былі пабудаваныя потым, носяць палітычны характар. Яны не толькі вылішаныя арнамэнтных дэталеў, але таксама з кожнага погляду больш простыя і бедныя за старых езуіцкіх фаварытаў. Некаторыя нават у сваёй беднасьці засталіся бяз вежаў і ў шматлікіх дачыненьнях няскончанымі.

На фасадзе ранейшых уніяцкіх цэркваў можна бачыць страката намаляваныя выявы сьвятых з моцна пазалочанымі німбамі, эфект ад якіх таксама не можа не ўплываць на пачуцьцё звыш неадукаванасьці. Добры густ ці яшчэ якая падобная выразная моц пакінула ў астатнім экстэр’ер гэтых цэркваў непафарбаваным. Праз гэта, і разам з высокімі нэфамі, якія ўказваюць на ўнутраны намер і сэнс, гэтыя цэрквы атрымалі, ня гледзячы на іх стракатую, барочную архітэктуру, проста захапляльны характар.

Перад каталіцкімі цэрквамі можна бачыць статую над парталам, бледную, рахманую постаць, чый дух і рукі ўдымаюцца ўгару з надзеяй і пакорлівасьцю. Магчыма тое, што іх не пакрылі пазалочанай мішурой, зьвязана з беднасьцю цэркваў. Эфект ад гэтых простых, бледных, адвернутых ад зямлі постацяў непараўнальна іншы, чым ад стракатых, зьзяючых золатам і фарбамі намаляваных вялікіх сьвятых.

Дзьве найбольш значныя, цалкам пабудаваныя ў стылі позьняга ракако царквы стаяць на правым беразе Віцьбы, на схіле цэнтральнай часткі горада, недалёка ад рынку. Яны могуць выступаць прадстаўнікамі найраскошных часоў езуіцкага ўплыву і пераўзыходзяць па стракатасьці формаў усе іншыя цэрквы горада. У абедвьвух нэф пабудаваны ў выглядзе прамавугольніка, а дах захаваўся ў першапачатковай прастаце і застаўся ўпрыгожаны купалам.

Да іх адносна арганізацыі частак далучаецца каталіцкая царква на левым беразе Віцьбы. На ёй аднак не бачна ніякіх сьлядоў арнамэнту, а прастата і грэбаваньне будынку мяжуюць з галечай. Нават вежы зьяўляюцца няскончанымі і завяршаюцца тупымі, чатарохкутнымі дахамі яшчэ ў ніжняй палове дзьвухсхільнага даху нэфа. Перад усімі іншымі цэрквамі яна выклікае пачуцьцё тугі і смутку. Бачная адсюль, з поўдню, яна займае вяршыню пясчанага ўзгорку, які пляміста і беспарадачна пакрыты садамі, кучамі друзу і беднымі хаткамі. На заднім фоне царквы можна ўбачыць плоскую частку горада на правым беразе Дзьвіны: там бачныя толькі франтоны і чорныя драўляныя дахі цесна прыціснутых адна да адной хатак, якія тырчаць нібыта труны з адкрытых магіл нейкага далёкага пагосту. Самі хаты здаюцца прыціснутымі ўніз, нібыта яны пагрузіліся ў зямлю. Таму простая, пакінутая царква паўстае нібыта склеп на далёкіх могілках.

Адна з найбольш элегантных і ўражлівых цэркваў з пазьней прыбудаваным, мадэрновым, паўшарным купалам гэта манастырская царква, што стаіць на гарадскім узвышшы на правым беразе Віцьбы недалёка ад гімназіі. Самая барочная з усіх стаіць унізе на левым беразе Віцьбы; нават галоўны купал над крыжам пабудаваны ў раскошным стылі, аднак ён прыкметна адрозьніваецца ад астатняга будынку. Яна належыць таксама да працялеглага манастыра, які знаходзіцца зусім побач, і разам з якім яна старанна адрэзаная ад астатняга гораду агульным мурам.

Своеасаблівай формай цэркваў зьяўляецца тая, што амаль агульна прынятая ў позьнія часы ўніяцкімі грэкамі і распаўсюджаная асабліва ў вёсках. Абрыс царквы прадстаўляе сабой раўнабаковы, грэцкі крыж, а ў сярэдзіне нэфа зьмяшчаецца моцны, паўшарны купал. Дзьверы, вокны, франтон і дахі пакінутыя па магчымасьці простымі і максімум маюць там-сям сіметрычныя мадэрновыя паўкруглыя аркі, часта нават толькі ў якасьці сьляпога акна ці аконнай нішы. Падобная царква стаіць на левым беразе Віцьбы на ўзгорку. Гл. малюнак.

Старыя рускія і праваслаўна-грэцкія драўляныя цэрквы выклікаюць сярод элегантных і ветлівых уніяцкіх цэркваў злавеснае, д’ябалічнае уражаньне. Цалкам і поўнасьцю збудаваныя з дрэва, якое з часам зрабілася амаль вугольна чорным, іх тонкія, худыя вежы з падвойнымі купаламі, што нагадваюць пра Калугу, нібыта выцягнутыя чорныя рукі з двойчы сьціснутымі кулакамі ўздымаюцца ў вышыню сярод цёмных дахаў хатак. Калі падыйсьці бліжэй, то бачыш паміж эвфемічных старых дрэў жаласную, перакошаную ветрам, нізкую халупу, пабудаваную ў форме грэцкага крыжа. Фантастычнае ўражаньне зьнікае, а застаецца толькі непаэтычная рэчаіснасьць.

Паколькі рускую царкву немагчыма ўявіць без званіцы, то яе, вышынёй недзе ў два чалавечых росту, прыстасавалі да аднаго мураванага будынку на процілеглым баку дарогі, які раней выкарыстоўваўся для іншых мэтаў.

Няма сумневаў, што будучыя цэрквы, якія будуць пабудаваныя ў Віцебску, і яны канечне могуць належыць толькі да праваслаўна-грэцкай царквы, будуць істотна адрозьнівацца ад гэтых рускіх драўляных цэркваў. Аднак таксама дзеля асьцярожнасьці выкананыя яшчэ дастаткова нацыянальна, яны будуць ствараць асаблівы кантраст тым сапраўдным мураваным цэрквам, якіх цяпер маецца такое мноства, і якія нават сваімі руінамі тут мусяць яшчэ выклікаць успамін пра нерускія часы, пра рускую немач і пра загінулую, вялікую дзяржаву і народ.

У панядзелак жыды сьвяткуюць сьвята. Гэта раптам надае гораду зусім іншы характар. Вуліцы, па якім у нядзелю немагчыма было прайсьці з-за чалавечага натоўпу, цяпер выглядаюць закінутымі і вымерлымі. Толькі асобныя паліцэйскія і салдаты бадзяюцца туды сюды па гораду. Рускіх таксама мала бачна. Неверагодна рэдка праходзіць жыд, аднак ужо больш без таго ўчорашняга заклапочанага бегу, але спакойна, павольна і сур’ёзна. Месца ўчорашніх жыдоў здаецца суразмерна запоўненае паліцыяй і вайскоўцамі. Таксама і сёньня

колькасьць мінаючых арыштантаў адносна вольна шпацыруючых рускіх нельга назваць неістотнай.

Я выйшаў вонкі, каб, як у папярэдніх рускіх гарадах, намаляваць цэрквы. На правым беразе Дзьвіны днём раней мне спадабаліся некаторыя добрыя ракурсы цэркваў у процілеглых частках гораду. Амаль на мяжы гораду я прысеў на ствол елкі, што ляжаў на беразе, і пачаў маляваць.

Спачатку побач праходзілі толькі жыды, што ішлі ў сінагогу паблізу. Нарэшце прыйшоў таксама брудна выглядаючы, апрануты па-нямецку мяшчанін, паназіраў моўчкі пэўны час і пайшоў далей. Не мінула і 10 хьвілін, як я ўбачыў атрад узброеных салдатаў, што ішоў да мяне. Не прараніўшы ані слова, унтэр-афіцэр паказаў, каб мяне атачылі і моўчкі ўзялі пад ахову. Тут у мяне забралі пашпарт, і я быў перададзены паліцэйскаму ў форме і раней узгаданаму цывільна апранутаму прыватнаму памочніку паліцыі, каб адвесьці мяне да паліцмейстра, бо я цьвёрда настаяў на гэтым.

Было б крывадушнасьцю сказаць, што афіцэры і паліцэйскія выказалі мне хаця б цень павагі, якая па справядлівасьці належыць кожнаму чалавеку, калі супраць яго яшчэ няма ніякай паліцэйскай справы, а яго паперы знаходзяцца ў парадку. Са мной абыходзіліся настолькі грубым чынам, нібыта я па меншай меры спаліў горад, і пераважна здавалася, што цывільны прыватны паліцэйскі схіляўся разглядзець у маёй асобе дзяржаўнага здрадніка, каб праз мяне здабыць максімальна важныя заслугі перад грамадскай бяспекай.

Пасьля таго, як паліцмейстр не быў знойдзены ў сваёй кватэры, а мяне ўжо больш за дзьве гадзіны цягалі па гораду пад паліцэскім суправаджэньнем, мы сустрэлі яго на дзьвінскім масту, дзе ён выконваў кантроль за сплавам драўніны.

Даклад і запал цывільнага, што шпіёніў і ўсё яшчэ суправаджаў мяне, здавалася перакапаў паліцмейстра, прыняць мяне з крыху больш, чым канцэлярскай мінай. Я прапанаваў, замест усялякага іншага адказу, праверыць мае пашпарты, а потым абыходзіцца са мной строга паводле афіцыйных паўнамоцтваў; больш падробныя зьвесткі пра мяне, ён можа атрымаць ад генэрал-губэрнатара. Пасьля чаго я запатрабаваў вылішыць мяне ўсялякай нежаданай кампаніі, пераважна аднак кампаніі паліцэйскіх у форме і без, асабліва калі яны зьяўляюцца настолькі заўзятымі, як раней узгаданая, усё яшчэ імкнучая наперад і нарэшце закліканая паліцмейстрам да спакою прыватная асоба.

Цяпер я быў з ветлівасьцю вызвалены і закліканы да прабачэньня за неправамочнае затрыманьне, і самотна накіраваўся са сваім альбомам пад пахай назад да пакінутага мной ствала елкі. Але мне здавалася, нібыта сотні бандыцкіх вачэй у форме і без сочаць за кожным маім крокам, і гэты паліцэйскі інцэдэнт, хаця я пакуль што не быў зноўку затрыманы, зрабіўся мне аднак у вышэйшай ступені агідным.

Тое, што я яшчэ ўчора не прыцягнуў да сабе сотні вачэй і палкай цікаўнасьці з боку паліцыі, я растлумачыў сабе толькі вялікім натоўпам і рухам габрэяў. Аднак сёньня ў гэтых маіх ненаўмысных анёлаў-ахоўнікаў сьвята, і таму я лёгка трапіў у рукі ганаровай варты памерлай Польшчы.

Пад уплывам непрыемных пачуцьцяў і яшчэ больш непрыемных гісторый горад урэшце рэшт зрабіўся мне брыдкім. Да апошняй мяжы адкрытых вуліц і апошніх самотных жыльляў усё яшчэ бадзяюцца вайскоўцы і паліцыя. Таму я шукаў волі і пайшоў уздоўж стромкіх схілаў і вузкіх бакавых цясьнін Віцьбы, каб паглядзець на туташнюю геагнозію.

За апошнімі цэрквамі ў бакавых цясьнінах Віцьбы недзе на 100-150 футаў выходзяць на дзённае сьвятло геалагічныя слаі. З ціхай надзеяй, што тут могуць сустрэцца цьвёрдыя, залягаючыя пароды, я пачаў дасьледваць цясьніны ад верху да дна даліны; аднак я нічога не знайшоў, акрамя залягаючага паўсюль яшчэ ад Угры, даўно знаёмага пяска. Унізе ў ручаі ляжалі нардычныя валуны, ад невялічкага дыяметру да памеру ў 12 футаў, перамешаныя з шэра-жаўтаватымі кавалкамі вапняку і даламіту, залежаў якіх я аднак не знайшоў.

На ўзвышшы плато можна было ўбачыць залежы чырвоных і жоўтых пяшчаных слаёў вялікай аднастайнасьці, пакрытых таўшчынёў у 10-12 футаў цалкам адрознага дэлювія, у які ўключаліся дастаткова шматлікія акруглыя камяні. Каб пяшчаныя і пяшчана гліняныя слаі, што залягаюць ва ўсіх рачных далінах і цясьнінах пад гэтым дэлювіям, былі знойдзеныя не інакш як у якасьці старажытных утварэньняў, то верагодна іх палічылі б проста дэлівіюмам.

У глыбіне цясьнін, схаваныя з абодвух бакоў, квітнелі яшчэ апошнія рэшткі флоры: prunella vulgaris, thymus serpyllum і acinos, lycopsis arvensis, senecio jacobaea, matricaria і apargia, viola tricolor, erodium і г.д. Нават яшчэ белыя алешыны захавалі сваё зялёнае лісьце. Аднак не было бачна ніводнай вялікай жывёлы, ані птушкі, ані рэпціліі. Прырода была ўжо нібыта вымерлая.

Увечар мы вырашылі зрабіць шпацыр, цалкам без мэты і намеру. Мы былі амаль кранутыя гэтай ідэяй, якая ад самага пачатку падарожжа сёньня ў першы раз прыйшла нам у галаву з-за недахопу заняткаў.

Усе апошнія ўбогія хаткі, што ляжалі ў беспарадку на пяшчаных і друзавых узгорках на мяжы горада, былі жыдоўскімі селішчамі. Яны сьвяткавалі сваё сьвята кушчаў і былі наколькі магчыма ўпрыгожаныя. З некаторых буданаў чуўся ўсходні сьпеў, зусім чужы рускаму народнаму сьпеву. Шмат жыдоў рушылі наўкол групкамі, тут мужчыны, а там жанчыны, аднак ніколі тыя і тыя разам. Спакойнае сьвята адлюстроўвалася на ўсіх абліччах. Зьнік усялякі сьлед жудаснай дзелавой мітусьні. Здавалася, яны аддаваліся прыемным размовам і шпацырам. І мне было прыемна, хаця я знаходзіўся паміж групак чужога, вылішанага радзімы народа. Гэта не былі твары паліцэйскіх, але адчыненыя, шчырыя габрэйскія вочы з пакутлівым, усходнім водблескам, які не мог схаваць тугі па страчанай далёкай Радзіме.

Кажуць, і часта нават маюць на тое прычыну, што там, дзе жыды селяцца ў вёсках, яны хутка разараюць сялян, і ўся ўласнасьць наколькі магчыма пераходзіць у рукі жыдоў. Гэта было б несправядлівасьцю, навешваць на тутэйшых жыдоў настолькі жорсткае выказваньне. Па-першае, тутэйшыя сялянскія адносіны гэтага не дазваляюць; яны самі не маюць аніякай уласнасьці і ня маюць чаго губляць, акрамя свайго дзёнага ці гадавога заробку. Па-другое, падобныя высмоктваньні хрысьціян павінны былі ўжо нарэшце прывесьці жыдоў да шчасьця. Аднак горкая галеча здаецца зьяўляецца тут вечным спадарожнікам жыдоў. Невядома, ці лепей было б палякам без жыдоў.

Аднак можна таксама сказаць, што пры незвычайнай канцэнтрацыі жыдоў у туташніх мясьцінах несправядлівы торг і ліхвярства, калі б яны нават мелі месцы быць, павінны былі б бяз сьледу зьнікнуць праз занадта шырокае разьмеркаваньне. І не ўсе жыдоўскія сэкты, якіх тут сфармавалася шмат, нават варожа настроеных адна супраць другой, носяць рэпутацыю вялікай сьвятасьці, альбо сумленнасьці.

Тыя, што адносяцца да так званага сярэдняга стану, молюцца, напрыклад, паводле прадпісаньняў і не ядуць аніякага недазволенага мяса; аднак яны мусяць карміцца ад усіх тыпаў гандлю і крадзежу, і для бяспекі даваць хабар паліцыі. Скрадзеныя рэчы ахвяра можа атрымаць назад у прадстаўніка таварыства за невялікую ўзнагароду. У якасьці ліхвяроў яны не бяруць аніякіх працэнтаў, але палову прыбытку, які яны заўсёды ад самага пачатку прыраўніваюць прыкладна да паловы капітальнага кошту. Клятва даўжніка, што капітал не прынёс яму аніякага прыбытку, вызваляе яго ад цяжкай, беспрацэнтнай выплаты, аднак гэта ў сваю чаргу дрэнна адлюстроўваецца на атрыманьні наступных крэдытаў. Таксама ў некаторых іншых сэктах зьяўляецца характэрным, што яны шануюць Б-га ўсімі прадпісанымі старым запаветам шляхамі, аднак лічаць падман, махлярства і крадзеж у дачыненьні да людзей дазволеным, што яны выводзяць з Б-скіх загадаў падчас зыходу з Эгіпту.

Некаторыя туташнія жыды узьняліся, не заўсёды вядома якім чынам, па-над лёсам большасьці сваіх аднаверцаў. Гэта раней узгаданыя туташнія камерцыйныя дарадчыкі. Народ лічыць іх блізкімі родзічамі, альбо добрымі знаёмымі барона Ротшыльда.

Гэтых багатых жыдоў сярод рускіх паўсюдна ненавідзюць. Яны зьяўляюцца буйнымі арандатарамі прыгонных і сялян.

Часта ў апраўданьне прыгону кажуць пра патрыярхальныя адносіны землеўласьніка да яго сялян. Я сам ведаю прыклады, дзе падобнае мела месца адбывацца, дзе пан па чалавечы абыходзіўся з селянінам, якога ён не бачыў на працягу год, ці нават ніколі ў жыцьці, які быў яму зьнешне і ўнутрана чужы. Аднак часьцей сустракаюцца знаёмыя размовы пра душы, чыю каштоўнасьць кожны называе ў круглых сумах. У большасьці выпадкаў прыгонныя разглядаюцца толькі ў якасьці капітала, з якім у пэўных, ці няпэўных межах дазволена ліхвярства. Адносна прыгонных говорка не можа йсьці пра адносіны паміж чалавекам і чалавекам, калі абодва бакі не сустракаліся ў жыцьці ні разу, альбо толькі некалькі гадзін.

Амаль заўжды адносіны з прыгоннымі праходзяць праз пасрэдніка, праз упраўляючага, ад сумленнасьці і гуманнасьці якога залежыць дастатак як землеўласьніка, так сама і сялян. Рускія і ўсе вольныя ў старых польскіх правінцыях паступова звыкліся даваць жыдам права дзейнічаць замест іх. І індустрыя гэтага пасрэдніцтва праз жыдоў ідзе настолькі далёка, што для пэўнай арэнды на іх пераносяць нават прыгонных. Жыды пад прымусам унутранай канкурэнцыі даюць за самаго селяніна, ці за яго паншчыну, больш, чым можа выціснуць упраўляючы, і канечне пры гэтым яны не могуць панесьці страты. Якімі сродкамі аднак здымаецца арэндная плата і чаканы прыбытак з сялян, якія пры гэтым выступаюць толькі ў ролі чыстага аб’екта гандлю, не патрабуе ніякіх каментароў.

Пра ўсе бесчалавечнасьці, што здараюцца пры гэтым, ня трэба шмат пытацца, каго абвінавачваюць у большым варварстве і бяздушнасьці: прагнага да спажывы, бессаромнага землеўласьніка, ці бессардэчных ізраэлітаў.

Насколькі гандлёвыя ідэі ізраэлітаў напоўнілі ўсе галовы, мы пабачылі наступным ранкам падчас візыта да гімназыі і гамназыйнага інспектара. Каб паглядзець, якімі дарамі прыроды губэрні валодае прыродна-гістарычная калекцыя гімназыі, мы прадпрынялі пілігрымку да цэнтральнага пункту навукі і вучонасьці ўсёй правінцыі.

Мы ў найлепшай форме зарэгістраваліся ў інспектара, паводле імя – немца, асабіста прадставіліся яму з максімальнай ветлівасьцю, з максімальнай дакладнасьцю растлумачылі яму мэту нашага падарожжа, і скончылі запытам, каб ён пажадаў дазволіць нам, паглядзець калекцыю тутэйшых дароў прыроды. Пасьля таго, як ён нас некалькі імгненьняў з боку моўчкі разглядаў і ацэньваў, мы атрымалі, калі ён пачаў аддаляцца ад нас, цалкам слушны адказ: гімназыя не прадае ніякіх мінэралаў. Мы, замест яго, папрасілі прабачэньня, што ён быў заблытаны намі, і пачалі зноўку тлумачыць, што нас не цікавіць гандаль мінэраламі, што мы знаходзімся ў экспедыцыі па заданьню міністэрства фінансаў і адносна мінэралаў маем толькі навуковую цікаўнасьць. Аднак было немагчыма пераканаць педагога, што існуюць людзі, якія могуць мець навукоўную цікаўнасьць, і што мы належым да іх ліку. З паўторнай заўвагай, што ён не мае ніякіх мінэралаў ані на продаж, ані на прагляд, і што ён нічога ня ведае пра мінэралы гімназыі, ён выдаліўся, а мы былі вольныя.

Мы спадзяваліся знайсьці дазвол на некамерцыйны агляд калекцыі ў матэматыка гімназыі, таксама немца, які меў асаблівы нагляд за прыродазнаўчымі калекцыямі гімназыі, і з яго дапамогай убачыць наяўныя дары прыроды, аднак ня гледзячы на паўторныя візыты не маглі знайсьці яго. Такім чынам, як і раней пасьля кожнай падобнай спробы, мы засталіся абмежаванымі ў дачыненьні да вызначэньня нашых геагнастычных поглядаў толькі нашымі ўласнымі назіраньнямі.

Аднак падчас паўторных вандровак уздоўж Дзьвіны і ў астатніх ваколіцах нам не ўдалося ўбачыць геагнастычныя суадносіны іншыя за тыя, што мы знайшлі пад Суражам.

Такім чынам мы хутка паверылі, што ўжо дасягнулі мяжы на гэты момант яшчэ магчымых прыродна-гістарычных дасьледваньняў тутэйшай мясцовасьці, аднак не маглі рушыць далей, пакуль да нас не далучыліся нашыя астатнія спадарожнікі.

Таксама здавалася і іншыя выбітнасьці Віцебска скончыліся для нашай цікаўнасьці. Цэрквы ўжо хутка не давалі больш нічога адметнага для маляваньня. Тое, што мы маглі бычыць у іхных інтэр’ерах, паўтаралася ў яшчэ большай ступені. Мы знайшлі каталіцкія цэрквы звычайнымі, а ў уніяцкіх, як можна было меркаваць, талерантную камбінацыю адметнасьцей абодвух канфэсій. Пераход да праваслаўнага грэцтва здавалася яшчэ не прынёс сваіх радыкальных рэзультатаў, і пад сьвятымі маслянымі выявамі іканастасу ўсё яшчэ стаялі драўляныя статуі, і ўнутранае аздабленьне цэркваў вельмі нагадвала каталіцкае.

Інтэр’еры шмат якіх з гэтых цэркваў немагчыма пераўзысьці па безгустоўнасьці упрыгожваньняў. Усё пакрыта найінтэнсіўнымі, найстракатымі фарбамі і няўмольнымі камбінацыямі колераў. Нават на найдробных рэчах цалкам нанесеныя праблытаныя вясёлкі. Гэтыя стракатыя фарбы падаюцца тым больш неадпаведнымі, чым больш маладым зьяўляецца маляваньне. Толькі калі ўсё, як у маскавіцкіх цэрквах, пакрыта цёмнай шэра-карычнявай фарбай старыны, яно можа менш абразіць. У сучасным стане падобная царква паводле фарбавага аздабленьня робіць уражаньне новай і безгустоўна абстаўленай кандытэрскай.

Рэлігійная патрэба здаецца тут меншай, чым у Маскве і іншых маскавіцкіх гарадах. У катэдры а другой палове дня мы знайшлі толькі паўтузіна папоў занятых вядзеньнем імшы, здаецца для іх асабістага настаўленьня, бо царква была акрамя нас і сьвятароў зусім пустая. Нават яны здавалася немала нудзяцца пад час сваёй працы; на першы погляд не занятыя рукамі сьвятары разглядалі нас, пакуль яны пелі, з несхаванай цікаўнасьцю.

У каталіцкіх цэрквах мы знайшлі менш рэлігійнай працы, чым у грэцкіх. Нам падалося адметным, бачыць сход заўсёды сідзячым на дакладна пазначаных лавах, паміж якіх кожны пад час паклонаў і хрышчэньняў быў занадта абмежаваны ў адведзенай прасторы. Ужо толькі з-за гэтага на імшы царыў большы спакой. Большасьць прысутных мелі кнігі, па якім яны пелі і маліліся, таксама рэдкасьць у грэцкай царкве, бо асноўную ўмову, ўменьне чытаць, немагчыма абыйсьці. Арган, чый гук быў для нас таксама новым, меў дысгарманічны акампанемэнт з аднаго толькі хрыплага голасу, і ўвесь час рабіў адносна пасьпяховыя спробы перайсьці ад стыля імшы да мазуркі. Ад нацыянальных элементы ў каталіцкім царкоўным сьпеве адмаўляюцца так сама мала, як і ў рускім.

Інтэр’ер каталіцкіх цэркваў цалкам перапоўнены стракатымі ўпрыгожваньнямі ў гусьце позьняга ракоко; а звонку, як у шматлікіх каталіцкіх цэрквах, у мностве прыладжаныя воскавыя і іншыя гандлёвыя будкі, якія тут канечне талерантным чынам належаць жыдам і населеныя жыдамі.

Як цэрквы, так сама і людзі, шо атачалі нас адразу, як толькі мы ўступалі зь імі ў кантакт, прапаноўвалі нам усё менш новых граней. Падчас шпацыраў мы на працягу дня мелі магчымасьць бясконцага назіраньня за вяртаючыміся да дому, і таму па большасьці пьянымі, сялянамі, якія максімальна яскрава складалі проціпастаўленьне ў найвысокай ступені умерана і бедна жывучым жыдам, якія ніколі не пьюць алкаголь і штодня маюць толькі адну сур’ёзную трапезу, часьцей за ўсё хлеб з засоленай рыбай.

Віцебск у параўнаньні з падобнымі гарадамі Вялікаросіі прапаноўвае вялікую разнастайнасьць, аднак таксама аналягічна вялікую безхарактарнасьць ва ўсіх адносінах. Калі ў Яраслаўле, ці Калузе можна бачыць нармальна і без перашкоды сфармаваныя рускія элементы, то тут кожнае выяўленьне жыцьця абумоўлена канфліктам трох нацыянальнасьцей, польскай, рускай і жыдоўскай, якія амаль у кожным дачыненьні выступаюць варожа адна да адной. – Гэты заснаваны на прыродзе народных элементаў канфлікт у разьвіцьці здаровага народнага жыцьця яшчэ больш павялічваецца праз падвойны ўзаемны недавер. У Вялікаросіі перакананьне ў справядлівасьці адміністрацыйных і судовых органаў здаецца зрабілася немагчымай фармуліроўкай; да заснаванага на гэтым недаверу ў Беларусі дадаецца яшчэ і палітычны страх. З аднаго боку прычына гэтаму мусіла

паступова адпасьці, паколькі калісьці польскае насельніцтва цяпер дастаткова агульна прымушанае прымаць удзел у рускім мастацтве аднастайнасьці і не мае больш каб згубіць ніводнага са сваіх старых праў. Востры паліцэйскі нагляд здаецца аднак не кажа аб тым, што безгрунтоўны страх з аднаго боку цяпер згасіў таксама і адваротны страх з іншых бакоў. Такім чынам народнае жыцьцё з усіх бакоў прадстаўляе толькі нярадаснае: падаўленыя жаданьні, разбураныя надзеі і страх перад сябрамі і ворагамі. Толькі невіноўныя ў палітычных і іншых прынцыповых парушэньнях жыды нясуць свой лёс цалкам без нянавісьці і прыхаванай злосьці.

Пасьля таго як я яшчэ напісаў розныя лісты ў Нямеччыну і, паколькі яны не перайшлі мяжу, дарма аддаў іх на пошту, пачалося чаканьне нашых спадарожнікаў. Тыдзень амаль падыйшоў да сканчэньня.

Паколькі ў нашых руках не было магчымасьці скараціць час пакутаў; то мы спрабавалі запоўніць яго. З-за таго, што сучаснасьць максімальна абыходзілася з намі нібыта мачэха і па ранейшаму адразала нас ад зьвестак пра астатні сьвет, калі напрыклад адзіная кандытарская ў Віцебску з замежных палітычных газэт мела толькі Венскую тэатральную газэту; то нават у гэтым мы былі абмежаваныя толькі самімі сабой і пачалі кідаць рэтраспектыўныя позіркі на мінулае, якія заўсёды спыняліся на тым, што варта было б як мага хутчэй зьехаць адсюль і трапіць у менш цывілізаваныя мясьціны Расіі, дзе зямля і народ яшчэ маглі выяўляць хоць штосьці арыгінальнае.

Гэтыя рэтраспектыўныя позіркі прывялі нас нават да статыстычных аглядаў, некаторыя зь якіх немала характэрызуюць умовы і прагрэс цывілізацыі ўнутры Расіі. Так сярод іншага мы вялі дакладны запіс усіх падарожных выдаткаў з Усьцюга да Віцебска, якія даюць характэрныя вынікі для асобных губэрній:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Масква | 75 | рублёй | папераў |
| Яраслаў | 70 | // | // |
| Тула і Калуга | 60 | // | // |
| Смаленск | 45 | // | // |
| Віцебск | 43 | // | // |
| Волагда | 23 | // | // |

Для нас абодвух і аднаго лёкая ў сярэднім штодня было затрачана па гарадам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Масква | 50 | рублёй | папераў |
| Яраслаў | 36 | // | // |
| Калуга і Смаленск | 30 | // | // |
| Волагда | 25 | // | // |

Для тых самых штодзень пад час падарожжа па адкрытай мясцовасьці, у губэрніях:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Яраслаў і Масква | 18 | рублёй | папераў |
| Тула і Калуга | 12 | // | // |
| Смаленск | 8 | // | // |
| Віцебск | 6 | // | // |
| Волагда | 4 | // | // |

Пасярод падобных заняткаў, праз якія мы спрабавалі суправадзіць лічбавымі паралелямі бачаныя намі ўмовы жыцьця, прыбылі нашы спадарожнікі, спачатку Зіноўеў з Арлоўскай губэрні, а праз два дні барон Майендорф з Рыгі.

У нядзелю 6-га кастрычніка мы ўпершыню сабраліся ўсе разам пасьля Усьцюга Вялікага і былі радыя нашай сустрэчы пасьля доўгага расставаньня.

Падчас запакоўцы і адпраўцы закамянеласьцей было прадпрынятае ўсё магчымае, каб атрымаць новыя геагнастычныя зьвесткі пра губэрнію. Мы пыталіся пра інфармацыю ва ўсіх, хто мог валодаць шырокімі краязнаўчымі ведамі, у губэрнскага архітэктара, італьянца, у нямецкіх ўрачэй. Ад аднаго зь іх мы даведаліся, што ў нас мала перспектыў на новыя

знаходкі, што ракавіны, якія мы шукалі, трапляюцца толькі ў Італіі і Адэсе, ды ў Адэсе таксама вельмі рэдка; з іншага боку мы аднак даведаліся, што на адлегласьці ў некалькі міль ад горада на беразе Дзьвіны маюцца цьвёрдыя пласты.

Барон Майерсдорф прывёз з ніжняй Дзьвіны, паблізу ад Дынабурга, геалагічныя ўзоры з закамянеласьцямі з фармацый старага рудога пяшчаніка і меўшыеся там даламіты, якія былі цалкам падобныя на суражскія. Здаецца вельмі верагодным, што гэтыя старыя фармацыі пераходных гор на заходняй Дзьвіне амаль паўсюль трапляюцца з вапняком і даламітамі, а на ўсходзе, каля Полацка і Віцебска, зноўку разьвіліся ў рыхлыя чырвоныя пяшчаныя пласты. І тым больш важна было б прасачыць цьвёрдыя каменныя пароды з некаторымі закамянеласьцямі побач з залежамі рыхлых пяшчаных пластоў таксама да гэтых мясьцін. Тады мы вырашылі дасьледваць берагі Дзьвіны на нашым наступным адрэзку падарожжа.

У панядзелак была зробленая чацьвёртая спроба паглядзець закамянеласьці гімназыі. Мы ў кампаніі дваранскага маршала губэрніі, графа фон Борка, і барона Майерсдорфа зноўку зарэгістраваліся з гімназыйскага інспектара, і былі імгненна прынятыя з невыразнай ветлівасьцю і супраўць волі праведзеныя парадам па ўсім клясам і памяшканьням. Аднак закамянеласьці нам так і не паказалі. Ён не мог знайсьці ключ. Таксама аднак больш не было ніякай гаворкі пра гандаль мінэраламі.

Позна вечарам Майерсдорф і Кайзэрлінг ад'ехалі ў Смаленск, каб адтуль прасунуцца на поўдзень і прасачыць пасьлядоўнасьць фармацый. Зіноўеў і я пажадалі сьледаваць за берагам Дняпра, а перад тым дасьледваць пазначанае месца каля Дзьвіны, дзе мусілі мецца цьвёрдыя каменныя пароды.

Ранкам у аўторак пайшоў моцны сьнегапад. У вазу з рускім вазьніцай мы ехалі простым напрамкам да Ш а б о ў, дзе каля Дзьвіны павінны былі мецца цьвёрдыя каменныя пароды. Апошні раз мы бачылі ваколіцы Віцебска, якіх мы ўжо дастаткова наглядзеліся: зьбяднелыя, няшчасныя вёскі, у якіх селянін валодае адной толькі каровай і рэдка калі парсюком, лясы са змешаных бяроз і елак, што перамяжаліся алешынамі. Аднак зіма са сваім сьняговым покрывам не павялічыла прыгажосьць мясцовасьці; галеча людзей і прыроды ў гэтым сьвяточным адзеньні праступала толькі яшчэ больш настойліва.

Толькі сама паездка ў сьнезе здавалася больш радаснай, чым пад дажджом і ў шторм. Лес падступаў да самой дарогі, і мы нявольна скідалі галовамі сьнег з усіх галінак. Колы воза нарасталі ад мяккага сьнегу ўсё вышэй і мацней, што мы думалі перасесьці ў іншы экіпаж, як раптам сабраны сьнег выпадкова разваліўся,  і мы зноўку сядзелі драўлянымі коламі блізка да зямлі.

Поле зроку было абмежаванае; туман шчыльна хаваў усё перад намі. Вакол у незьлічонай колькасьці лёталі дразды і канаплянкі, не знаходзячы ніякага дакладнага кірунку, і мы чулі толькі іх неспакойныя, далёка чутныя галасы, не бачыўшы іх саміх у палёце. Усе елкі здаваліся пракрытымі сініцамі, а шэрыя вароны зьбіраліся ў вялікія зграі на адзіных высокіх бярозах. Усё жывое здаецца было ўражанае нечаканым сьнегам.

Дзьвіна цячэ па блізу ад Шабоў з усходу на захад. Як толькі гэты напрамак спыняецца, на беразе можна знайсьці вялікія і шчыльна разьмешчаныя гранітныя пласты з, цяпер са шматлікіх бакоў вядомымі, пяшчанымі даламітамі і абломкамі. Паўночныя крысталічныя пласты губляюцца, як толькі рака мяне свой кірунак. Некаторыя кавалкі вапняка маюць Terebratula livonica і Spiriser trapezoidalis, якія рашуча паказваюцца на фармацыі старага чырвонага пяшчаніка. Бераг і ўсе бакавыя цясьніны, насколькі яны ўздымаюцца над люстэркам вады, паказваюць аднак толькі чырвоныя пяшчаныя і гліняныя пласты гэтай фармацыі. З трапляючых вапнякоў і даламітаў няма сумневу, што яны знаходзяцца тут пад чырвонымі пяшчанымі пластамі, і пры нізкім люстэрцы вады выходзяць на дзённае сьвятло. Некаторыя цьвёрдыя скальныя пласты, наколькі гэта магчыма было дасьледваць падчас

бурнай, высокай вады, перасякаюць рэчышча поперак. Спосаб залягання абодвух пасьлядоўнасьцей напластаваньняў больш не выклікаў ніякіх сумневаў.

Уздоўж Дзьвіны мы паехалі назад да гораду. Сьнег тут яшчэ больш памножыў дарожны бруд. Мы не раз бачылі пашыраныя, небяспечныя дзіркі ў вулічным бруке. Паліцыя, здавалася, дайшла тут да мяжы сваёй улады. На падобным бяздонным месцы мы пасярод гораду раптам зноўку апынуліся на зямлі. Колы ад удару зламаліся. Мы зноўку дабіраліся пехатой, і нам спатрэбілася ўсяго некалькі хьвілін, каб пакінуць горад у напрамку да Воршы.



Арцыбіскупская царква ў Магілёве

## VI
## "Падарожжа з Віцебска ў Магілёў"

...............

Пасьля таго як мы позна вечарам пакінулі за сьпіной перарваны, цёмны хвойны лес даўжынёй недзе ў 2 вярсты, мы ўбачылі перад сабой агенчыкі маленькага гарадка Ш к л о в а . Шклоў населены амаль толькі жыдамі, і толькі пры імэратрыцы Катарэне II, падчас першага падзелу Польшчы, быў узьняты да статусу горада. Грунтоўнымі вуліцамі і буйным, часткова пературварыўшымся ў руіны замкам горад адметна вылучаецца з падобных яму, хаця ў астатнім ён не мае ніводнай своеасаблівасьці, якая надавала б яму гарадское аблічча, і нават гарады накшталт Грязаўца і Кірылава ў параўнаньні з ім яшчэ выглядаюць пышна.

Мы былі праведзеныя да ізраэлітаў, аглядзелі з асалодай іх чыстыя, цёплыя памяшканьні і вырашылі, застацца тут на нач, каб удзень прыбыць у Магілёў.

У памяшканьні каля палаючага каміну побач з намі сабралося шмат усходніх абліччаў. Адзін з ізраэлітаў пёк нам бульбу у попеле; другі прадаваў нам грушы, якія былі вельмі смачнымі і вырасьлі тут; трэці прынёс нам крэндзелей на продаж; і хутка нашы дзьверы зрабіліся больш наведваемыя за галубятню і зусім не зачыняліся, бо ўвесь час прыходзілі новыя ізраэліты, каб прапанаваць нам свае тавары. Два, тры і больш атакавалі нас адначасова, каб апярэдзіць адзін аднаго. Нейкі час нас забаўляла гэтая наіўная занятасьць і мы набывалі ўсё, што можна было набыць, дробязі, каб пазнаёміцца з прыёмамі гандлю гэтых нястомных. Аднак напрыканцы, калі было ўжо даволі позна, і наша памяшканьне зноўку зрабілася зусім халодным ад няспыннага ўваходу і выхаду, прыйшло шмат людзей з латарэйкамі, якія без усялякай міласьці меркавалі прадаваць нам. Гэта падалося нам занадта цывілізаваным і эўрапейскім, каб цікавіць нас далей. Калі шматлікія намёкі не дапамаглі, мы з невялікім стараньнем вытаўклі ўсю кампанію за дзьверы і нарэшце засталіся ў спакоі. Нажаль гэтае высланьне закранула таксама і нашага гаспадара. Ён выглядаў вельмі зьбянтэжаным, быць выгнаным з уласнага дому, і некалькі разоў вельмі сьціпла тлумачыў нашаму лёкаю: тут не дазваляецца так абыходзіцца з жыдамі. Аднак адно адзінае слова нашага капрала, які сам не ўмеючы чытаць паказаў ім дзьвухгаловага арла на нашых падарожных, вельмі хутка супакоіла абражаную кампанію, і яны прыйшлі яшчэ толькі адзін раз, каб шчыра прасіць прабачэньня за тое, што яны непакоілі нас.

Сена і ложкаў у нашых ізраэлітаў не было. Мы ляглі на жорсткія драўляныя лавы пад вокнамі, праз якія ноччу нас абдувала халотным ветрам, і спалі добра да самага ранку. Хто падарожнічае па Расіі хутка губляе ўсялякае пачуцьцё камфорту і яму ўжо не мае розьніцы, ці ён кладзе галаву на пер’я, сена, ці дрэва, альбо сьпіць сідзючы на адкрытым вазу.

..............

Ясны восеньскі ранак пры сьвежым паўночна-заходнім ветры, які жвава зрываў зжаўцелае лісьце бяроз і раскідваў яго над палямі і дарогай, вёў нас да Магілёва. Калі чалавек выбіраецца з шмат разоў перарванага лесу даўжынёй у шматлікія мілі, на адлегласьці ў 4 вярсты перад сабой ён бачыць горад.

Найбольш высокія будынкі і вежы шчыльна прыціснуўшыся складаюцца ў імпазантную масу. Зьлева ад гэтай групы, далей на ўсход, на такую самую вышыню ўздымаюцца шмат дзе ў гэтым горадзе пасаджаныя ліпы і бярозы. На захад ад асноўнай групы праз глыбокую пойму Дубравенкі можна глядзець у далячыню, а на правым беразе гэтай рэчкі бачныя схаваныя пад шатамі дрэў цэрквы і хаты ніжняга прадмесьця, што падымаюцца да самага верху.

У пятніцу, 11-га кастрычніка, каля 2 гадзін пасьля поўдня, мы дабраліся да паўночнай брамы, якая, не замацаваная далей у навакольлі, ў’яўляе сабой арку Сьв. Марціна ў Парыжы.

Мы толькі пасьпелі зарэгістравацца ў аднаго рускамоўнага, польска-нямецкага гаспадара, як ужо накіраваліся здабыць першае ўражаньне ад горада і яго цэркваў. Да нападак паліцыі я быў ужо гатовы. Толькі я спыніўся ў цэнтры рынка, каб разглядзець навакольныя будынкі, як адназу паказаўся паліцэйскі афіцэр у форме, які нібыта фаўстаўскі пудзель тры разы абыйшоў мяне па сьпіралі, а потым з непадабаючай адлегласьці, зусім зблізу, моўчкі, нібыта экзатычны драпежнік, разглядаў, аднак не перашкаджаў мне хадзіць паўсюль.

Пад час маляваньня драўлянай царквы сьвятых Барыса і Глеба, якая кінулася мне ў



Царква сьвятых Барыса і Глеба

вочы праз свой барочны выгляд, каля нас прайшлі ізраэліты, якія мяне з такім зьдзіўленьнем разглядалі, што я адразу зразумеў, яны хочуць заявіць на мяне ў паліцыю для больш падрабязнай размовы. Пасьля таго, як яны ўжо хьвілін пяць як зьніклі, яны вярнуліся з іншым паліцэйскім афіцэрам у форме, які дапытаўся ў нас пра ўсё магчымае: імя, прозвішча, чын, мэту малявання, падарожжа, месца, адкуль і куды, і як там звычайна падобныя паліцэйскія анкеты гучаць далей. Калі з усяго шэрагу ён пачуў адзін чын і таксама не знайшоў яго ў пашпарце, ён некалькі раз прыязна сумнеўна пакачаў галавой, а суправаджаўшыя яго прыватныя-паліцэйскія-ізраэліты, чыі вочы не адрываліся ад вачэй паліцэйскага і ажыўляліся ім, выглядалі настолькі незвычайна лісьліва, нібыта яны раптам пераканаліся, што схапілі добрую здабычу. На гэты раз аднак уся кампанія выдалілася, і мы свабодна пайшлі далей.

Калі мы наблізіліся да царквы брацкага манастыра, мы таксама пабачылі першага паліцэйскага, які хадзіў паблізу, таму я цалкам ўпэўніўся, хутка ён нападзе. Ён аднак аддаў перавагу спачатку задаволіцца жывым назіраньнем за намі і наблізіўся да нас толькі, калі мы ў прысьмерку павольна вярталіся да нашага гасьцінага дому ўверх па вуліцы. Зноўку нас сустрэлі тыя самыя пытаньні, аднак без усялякага зьдзіўленьня адказам. Ён выглядаў як просты шчыры чалавек, які нічога не ўтойвае, і быў цалкам прыдатны, каб выклікаць давер. Пасьля вуснага выпрабаваньня ён пажадаў азнаёміцца, ці хаця б пабачыць мае пісьмовыя працы, мой скамбінаваны дзёньнік-альбом. Замест гэтага я адразу паказаў мой пашпарт і спытаў, ці ён жадае бачыць малюнкі з цікаўнасьці, альбо ў якасьці паліцэйскага. Ён так кранальна казаў пра свае паліцэйскія абавязкі, што я паказаў яму выявы. Аднак, калі ён працягнуў руку, каб захапіць усю кнігу, я схаваў яе і выказаў сваю нязгодную пазіцыю. Калі мы дастаткова пагутарылі адзін з адным, ён правёў нас моўчкі да дзьвярэй гасьціннага дому, каб паглядзець, дзе мы праводзім ноч, і ўзяў нашыя пашпарты на подпіс і праверку.

Мы пасьпелі спакойна павячэраць і забыцца на ўсе паліцэйскія недарэчнасьці, як прыкладна асярэдзіне ночы паліцмейстр, стары палкоўнік, вышэй узгаданы першы паліцэйскі і наш гаспадар раптам зьявіліся ў нашым пакоі, а дзьверы і вокны трымалі пад аховай тузінам паліцэйскіх салдатаў. Увесь дом знутры і звонку нібыта ў адначасьсе запоўніўся паліцыяй, а паліцэйскі палкоўнік пачаў неверагодна неадшліфаваным вулічным тонам тлумачыць нам: што ён хоча атрымаць маю кнігу, якая ляжала перада мной на стале, што не дазволена маляваць пляны, што нашы пашпарты і падарожныя, якія паходзілі часткай з Пецярбурга і Масквы, часткай ад генэрал-губэрнатара з Віцебска і ўжо некалькі дзён састарэлі, не дастатковыя і цалкам могуць быць падробленымі і г.д. Хутка ён яскрава паказаў сваю натуру ды погляд і зрабіўся непрыстойным. Таксама і гаспадар выказаў сваю пазіцыю пра тое, што тут са шпіёнамі і баламутамі трэба быць заўсёды напагатове, і што тут часта бываюць людзі з фальшывымі пашпартамі. У адказ на гэта, праз пытаньне, ці ён таксама зьяўляецца паліцэйскім, на якое ён аднак адказаў адмоўна, я папрасіў яго пакінуць памяшканьне і параіў яму лепш абыходзіцца з пастаяльцамі.

Паліцмейстр аднак не пажадаў прыслухацца да словаў і намераваўся сам завалодаць кнігай, пакуль я не папярэдзіў, што застрэлю першага, хто да яе дакранецца. Зараджаныя пісталеты, якія ляжалі на стале каля маёй рукі, па меншай меры давалі падобную магчымасьць, і паліцмейстр апамятаўся і пачаў грунтоўна разьмяшчацца ў пакоі. Я адкрыта заявіў яму, што яго далейшая кампанія мне непрыемная і дакучлівая, і я не намераны цярпець яе нават яшчэ чвэрць гадзіны, таму ён мусіць знайсьці сабе іншы прытулак у гэтым доме.

Зіноўеў тым часам зноўку апрануўся, каб пасярод ночы шукаць дапамогі супраць гэтых нязваных гасьцей у губэрнатара Энгельхарда, які ўжо быў папярэджаны з Віцесбка праз генэрал-губэрнатара пра наш прыезд.

Праз некаторую замінку паліцэйскі палкоўнік атрымаў параду прасьледаваць за Зіноўевым да губэрнатара і атрымаць асабіста ад яго тлумачэньне, што з-за прасрочаных пашпартоў нельга дазваляць сабе зьдзеквацца з падарожнікаў і дакучаць ім сярод ночы. Паліцэйская аблога нашай гасьцініцы, якая дагэтуль заставалася, зьнікла так сама ціха, як і прыйшла, а мы былі цяпер вызваленыя ад усіх далейшых нападак.

Таксама і надалей я ўжо менш трапляў у гвалтоўныя стасункі з рускай паліцыяй, як і раней, да таго як я закрануў правінцыі старай разадранай Польшчы, а цяпер Белай, ці Заходняй Расіі. У цэнтры Расіі паліцыя працуе сваім звычайным ладам і турбуе падарожнікаў значна менш, чым у большасьці мясьцін Нямеччыны. Толькі для Польшчы і неспакойнага Захаду Эўропы здаецца накіраваная больш строгая ахова, і ахоўнікі ў наяўных выпадках відавочна не маюць намеру, спадзявацца на выказваньне з Эвангельля ад Мацьвея XXVIII 13, каб прадухіліць астатні зьмест гэтай главы.

Горад Магілёў мае маляўнічае размяшчэнне, якое ў шматлікіх дачыненнях нагадвае смаленскае, толькі ляжыць наадварот адносна краю свету. Дняпро, які разнастайнымі выгібамі ўецца на поўдзень праз сваё шырокае, плоскае ложа палёў, на паўночным канцы горада раптам мяняе свой бег, паварочваецца, напалову абцякаючы горад, на захад і прымае тут маленькі прыток, рачулку Д о б р о в е н к у, якая таксама цячэ з паўночнага боку. Доўгая рука землянога ўзвышша працягваецца паміж абедзьвух рэк з поўначы на поўдзень крута абрынаючыся па ўсім тром бакам сьвету. На гэтай высокай, крута абрэзанай, падобнай на язык паласе зямлі ляжыць цэнтр горада з афіцыйнымі будынкамі і вялікімі цэрквамі ды манастырамі. Дзьве вуліцы праразаюць гэтую частку з поўначы на поўдзень, а шматлікія драбнейшыя з усходу на захад. Другая частка горада ляжыць на захад ад першай, на правым беразе Добровенкі, падымаючыся на захадзе ад поймы ракі да ўзвышшаў. Тут можна пабачыць амаль толькі драўляныя хаты, драўляныя цэрквы і жыдоўскія селяшчы. Трэцяя частка горада, яшчэ менш істотная за папярэднюю, ляжыць на ўсход ад першай, на роўнай

даліне правага берага Дняпра. На поўдзень ад горада, на левым беразе Дняпра, ляжаць яшчэ некаторыя прадмесьці з нізкімі драўлянымі хатамі, якія здаюцца найменш істотнымі і гэтым сваім разьмяшчэньнем, толькі наадварот, адпавядаюць прадмесьцям Смаленска, што ляжаць на правым беразе Дняпра на поўначы.

Толькі цэнтр горада на ўзвышшы сістэматычна забудаваны, як у Смаленску, і з гэтага ўзвышша адчыняецца чароўны позірк на раскіданыя ўнізе хаты і купкі дрэў навакольных раёнаў горада, ад якіх бачныя амаль толькі дахі ды шпілі, а ад праміналючых людзей амаль толькі галовы. Паўсюль, дзе толькі можна падыйсьці да краю гэтага высокага плато, маецца галавакружная прорва каля 200 футаў вышынёй і небяспека абрынуцца на ўбогія, струхнелыя жыдоўскія жыльлі і галовы жыдоў.

З паўднёвага піка высокага плато, з правага стромкага дняпроўскага берага, адчыняецца панарама, падобную якой могуць прапанаваць мала якія гарады: усе часткі горада ў стракаткай групоўцы, далёкія даліны Дняпра з прыгожай, спакойнай стромай, вузкая даліна Добровенкі, разнастайныя стромкія бакі цясьнін абедзьвух рачных далін, якія ўразаюцца з усіх бакоў паміж жылых масіваў, а на ўсходзе і поўдні блакітныя далечы зноўку падымаючагася левага берага Дняпра, нібыта абрыс далёкіх гор. Калі б астатнія часткі горада, замест таго каб быць проста нашпігаванымі вартымі жалю, напаўразваленымі хаткамі, былі б хаця б навалову падобныя на цэнтр горада; то Магілёў мусіў бы стаць адным з найпрыгожых гарадоў Эўропы. Аднак ён, як Смаленск і Віцебск, так і застаўся далёка па-за гэткай магчымасьцю.

Доўгі час Магілёў быў залежны ад Смаленскага і Віцебскага княстваў, у 1381 трапіў да Літвы, а ў 1654-м быў зноўку захоплены рускімі. Праз 8 год жыхары паўсталі, выгналі рускіх і заставаліся да 1772 г. пад Польшчай. Падабенства Смаленска, Віцебска і Магілёва ў настолькі шматлікіх дачыненьнях тлумачыцца такім чынам ужо з падобных лёсаў гэтых трох гарадоў.

Горад мусіць мець 21 000 жыхароў, чвэрць з якіх складаюць ізраэліты. Здаецца, што тут для рэлігіёзных патрэбаў дастаткова недзе 20 цэркваў і 4 манастыроў. Цэрквы пад час імшы былі значна менш напоўненыя, чым у сапраўдных рускіх гарадах, дзе на гэткую колькасьць насельніцтва нярэдка налічваецца ўдвая больш цэркваў. Колькасьць каталікаў тут адносна большая, чым у Віцебску; яны валодаюць тут 5 касьцёламі і 2 кляштарамі. Таксама Магілёў мае каталіцкага біскупа, які зрабіўся вядомым па ўсяму сьвету праз руска-папскую рэлігійную спрэчку.

Сярод тамашніх цэркваў старыя драўляныя цэрквы дакладна зьяўляюцца найбольш цікавымі, паколькі яны наколькі магчыма яшчэ захоўваюць сьляды народнага архітэктурнага стыля. Адна з найбольш адметных – царква сьвятых Глеба і Барыса, чыі барочныя формы трапляюцца ў вочы на левым беразе Добровенкі амаль з кожнай высокай кропкі.

Будынак складаецца з чатырох асобных цэркваў, якія складаюць разам форму крыжа: найбольшая на захадзе, сярэдняя на ўсходзе, і дзьве меншыя на поўначы і поўдні. Кожная з гэтых цэркваў аб’яднаных у агульную царкву выглядае як круглая вежа з вострым, канічным дахам і дзьвума падвойнымі купаламі, што стаяць адзін над адным. Уваходы вядуць у заходні асноўны будынак. (гл. мал. 2)

Большасьць цэркваў Магілёва пабудаваная цалкам у стыле віцебскіх, і часта паказваюць толькі яшчэ большую разнастайнасьць і талерантнасьць у кабмінацыях форм.

Адна з самых простых і неістотнейшых цэркваў гэтага тыпу, гэта каталіцкая царква на галоўнай вуліцы каля вялікай, брукаванай плошчы. Максімальна безгустоўны і безхарактарны ўздымаецца над дахамі абедзьвух зусім аднолькавых бакавых нэфаў галоўны нэф. Фасад просты, а абедзьве франтальныя вежы толькі на вышыні цэнтральнага даху, на трэцьцім паверсе, пачынаюць ствараць наверша, аднак настолькі сьпяшаюцца ў гэтым, што завяршаюцца максімальна курчава і страката, хаця завастрэньне на чацьвёртым паверсе пачынаецца настолькі нечакана хутка і неабгрунтавана, што зусім не застаецца шырыні, каб

гэтая разнастайнасьць была бачная з пэўнай адлегласьці. Гэтую царкву з лiтасьцi надзялiлi хоравым купалам. Супраць усiх парадкаў яе партал разьмешчаны на ўсходзе, а хоры на захадзе.

Царква Брацкага манастыра ўжо прызначаная здавацца найбольш разнастайнай i ўнушальнай. Яе гарызантальны абрыс уяўляе рымскi крыж, перад папярочнымi перакладзiнамi якога ўнiзе разьмешчаныя бакавыя нэфы. Яе нэфы, вокны i дахi максiмальна простыя i безхарактарныя. Фасад наадварот максiмальна стракаты i ў асноўным складаецца з вiзантыйскiх элементаў, сам партал аднак трымаецца на грэцкiх калёнах, i над кожнай з гэтых калён уздымаецца упрыгожаная дэталямi урна. Фасад зьверху завяршаецца дзьвума нiзкiмi вежачкамi, на якiх зноўку над вiзантыйскiмi элементамi налеплена максiмальна шмат упрыгожваньняў. Цэнтральны купал над крыжам выглядае пазьнейшай прыбудовай. Вельмi мадэрнiзаваная вiзантыйская вежа праз багатыя арнамэнтныя ўпрыгожваньнi пераходзiць у купал у выглядзе гарызантальна абрэзанага паўшар'я, на якi зьверху яшчэ паставiлi цалкам упрыгожаны дэталямi лiхтар i невялiкую, мангольска-рускую цыбулю. Тут можна спытацца, чаго яшчэ не хапае гэткай царкве, каб зрабiцца карткай узораў усiх магчымых архiтэктурных элементаў. Дарма я шукаў старажытна-нямецкiя элементы стральчатых арак; такiм чынам тут у кожным дачыненьнi можна вывучыць, як нельга будаваць цэрквы.

Арцыбiскупская царква на ўсходзе цэнтральнай часткi горада выглядае сiнхронна i пасьлядоўна пабудаванай (гл. мал.). Над фасадам таксама ўздымаюцца дзьве бакавыя вежы, тры паверхi якiх зьверху настолькi скарочаныя, што толькi адны нiжнiя займаюць прыкладна палову вышынi. Над толькi крыху разьвiтым крыжам стаiць шырокая вежа з купалам, якi быў верагодна пастаўлены потым. Гэтая вежа адрозьнiваецца аднак ад усiх астатнiх тым, што непасрэдна да яе прычэпленыя чатыры рускiх бакавых купала, прыкладна ў стыле вежаў фасаду. У гэтых бакавых вежачках рускi дух праступае больш за ўсё. Гэтая царква тут адзiная, якая праз сваю архiтэктуру, альбо фрэскi атрымала даволi гармaнiчнае адценьне на той час незамянiмай раскошы. Званiца, што стаiць у баку ад царквы, нясе на сваёй прыплюснутай, нязграбнай падстаўцы доўгую, тонкую iглу ў якасьцi шпiля.

Самая безгустоўная з усiх цэркваў, якая структурай яшчэ нагадвае гэты архiтэктурны стыль, гэта каталiцкая царква на паўночным баку вялiкай плошчы, паблiзу ад раней узгаданай простай каталiцкай царквы. Масiўны фасад з трыма гарызантальнымi радамi вокнаў i каласальнымi iянiчнымi калёнамi ўздымаецца амаль вышэй за абедзьве неiстотныя бакавыя вежачкi. З рынку здаецца, што бачыш нейкi тэатар з дзьвума бакавымi каплiцамi. Iнтрэр'ер, як ва ўсiх каталiцкiх цэрквах таго часу, перапоўнены безгустоўнымi архiтэктоннымi, стракатa размаляванымi ўпрыгожваньнямi. Царкоўны хор складаецца з па магчымасьцi сярэдненькага аргана, якi граў дрэнна i не па царкоўнаму, у акампанэменьце 2-3 хрыплых галасоў. Сьпеў i iмша не закранулi нiводнага пачуцьця, акрамя паху, i здавалiся няздольнымi прывабiць празелiтаў.

Пэўную ступень рускай знакамiтасьцi заваявала царква сьв. Ёзафа, што само па сабе зразумела, бо архiтэктар тут араў на зусiм чужой цялушцы i адмовiўся ад усiх сьлядоў рускага ўплыву. Магчыма трэба яшчэ высьвятлiць, цi падчас нараджэньня гэтай царквы меўся на ўвазе рымскi арыгiнал, альбо парыжская копiя. Аднак, як бы там не было, майстар ўяўляў сабе адну зь iх.

Наконт круглых вокнаў пад купалам трэба адзначыць, што з iх нiчога асаблiва ня бачна, i iх форма, месца i памер такiм чынам могуць быць ацэненыя толькi паводле эстэтычных нормаў.

Сьв. Ёзаф знаходзiцца ў цэнтры ўсходняга боку вялiкай, прыгожай плошчы, якую ў кiрунку з поўначы на поўдзень перасякае ўздоўж галоўная вулiца. Таксама на ўсходнiм баку вулiцы, паўночна заходней ад царквы, знаходзiцца яе званiца, а паўднёва заходней – каплiца. Другi бок вулiцы аформлены адпаведнымi ваеннымi будынкамi, а насупраць

царквы, на заходнім баку плошчы, знаходзіцца ўваход да найбуйнейшага будынку Магілёва, экзэрцыргаўза.



Царква сьв. Ёзафа

Абодва будынка пераважна кідаюцца ў вочы, калі глядзець на горад з паўночнага боку.

Ужо ў першы дзень нашага знаходжаньня ў Магілёве, пад час нашага шпацыру ў горад і ў вузкую даліну Добровенкі, мы пераканаліся, што акрамя магутных пяшчаных пластоў, якія тут паўсюль маюцца ў наяўнасьці і выглядаюць усё яшчэ цалкам аднолькава з віцебскімі і шклоўскімі, мы наўрад ці сустрэнем нешта істотнае. Толькі ў зьнешнім слое гэтых пяшчаных пластоў знаходзіліся яшчэ некаторыя паўночныя наносы і таксама там-сям на паверхні вялікія ледніковыя валуны. І хаця было раскрыта шмат стромкіх адхонаў, не было бачна аніякіх сьлядоў каменьня.

Таксама рыбалка на Дняпры, якая знаходзіцца ў руках жыдоў, дала мала здабычы. Большая частка летняй рыбы ўжо зноўку сышла на поўдзень, а жыдоў ніякімі ўгаворамі немагчыма было прыцягнуць да рыбалкі, бо мы напярэдні не пажадалі скупіць усе іхныя запасы.

Маленькія вандроўкі і шпацыры ў даліну Дняпра і ўрэзы прытокаў мусілі цяпер займаць час, пакуль не прыбудуць нашы спадарожнікі. Некалькі разоў нас інфармавалі пра мінэральную крыніцу ў даліне Дняпра на поўнач ад горада, вакол якой прыгожы і шляхетны сьвет Магілёва зьбіраецца ўлетку, каб папіць крынічнай вады.

Каля Дняпра прырода раптам зьмяняецца. Высокая паверхня даволі стромкімі, маляўнічымі адхонамі зьніжаецца да паверхні ракі. Адхоны і схілы абедзьвух паверхняў пакрытыя найпрыгожымі дубовымі гаямі, у якія крыху прымяшаліся асіны і бярозы. Маленькія бакавыя даліны і каньёны, пакрытыя ўздоўж такімі самымі лясамі, цягнуцца да высокай паверхні плато і гонюць да Дняпра шматлікія крыніцы і ручаі.

Мы зусім не зьдзівіліся, калі пры дакладным разгляданьні знакамітая мінэральная крыніца, якую заключылі ў басэйн, і якая часткова бье артэзіянскім струменем, аказалася надта добрай, але аднак таксама зусім звычайнай, пітнай вадой. Добрая пітная вада тут зьяўляецца настолькі вялікай рэдкасьцю, як у іншых месцах знакамітая мінэральная вада. То пагэтаму мясцовая вада праз просты лягічны паварот, з-за сваёй рэдкасьці, атрымала тытул мінэральнай. Улетку гараджане натоўпамі едуць туды, садзяцца пад намётамі і дрэвамі і пьюць адтуль; а сьвятар вёскі грае тут ролю гаспадара купальні і раздае шнапс.

Гэты сьвятар сустрэўся нам на ўваходзе ў даліну. Наш вазьніца, рускі, адвярнуўся, адразу сплюнуў тры разы і патрабаваў ад нас таго самага, бо інакш з намі можа адбыцца

штосьці непрыемнае. Я пасьледаваў яго ўзору і затым пайшоў у даліну з дакладнай умовай, што сустрэну нешта прыемнае, што таксама не прымусіла доўга чакаць сябе.

Толькі мы спыніліся каля крыніцы, як з лесу да дому сьвятара каля нас праляцеў напаўзамёрзлы кажан. Вазьніца і сяляне адмовіліся схапіць яго, ці нават дакрануцца. Жывёла падалася ім настолькі прывіднай, што яны ад адной толькі думкі дакрануцца да яе яшчэ больш пляваліся, чым пры поглядзе на сьвятара. Як толькі я аднак praenumerando раздаў некалькі срэбных манет і паабяцаў яшчэ іншыя, калі яны сапраўды схопяць кажана; усялякая агіда адразу зьнікла, а дах і гарышча папоўскага дома былі атакаваныя і дасьледаваныя з такім імпэтам, што я спужаўся, каб ўвесь дом не разваліўся. Асаблівы непакой у мяне выклікала хуткае зьяўленьне сьвятара, якога мы напярэдні бачылі паблізу; аднак сяляне запакоілі мяне на гэты конт заўвагай, што дах і гарышча не належаць да дому, але знаходзяцца звонку, і поп, які акрамя таго зусім не небяспечны, нічога не мае супраць.

Пасьля пасьпяховага паляваньня мы прайшлі дняпроўскую даліну на поўнач, не знайшоўшчы ніякіх сьлядоў выхаду геалагічных пародаў на паверхню. Даліна мае тут спакойны, ветлівы характар. Яна прадстаўляе сабой шырокія раўніны з прыгожымі лугамі, адзіночнымі дубамі, пашамі і кустамі ляшчыны, дзе там-сям за адхонамі ляжыць загарадны дом з садамі і аранжэрэямі, з культурай садоўніцтва, якую можна чакаць ад паўночнай Нямеччыны. Даліна адмежаваная ад адхонаў, як у паўночных рэк, шэрагам аб’яднаных у адное прудоў і балотаў, што напаўняюцца дняпроўскімі паводкамі і некаторымі крыніцамі на адхонах.

Становішча сялян тут па большасьці такое самае, як і ў астатняй Расіі. Жыды атрымалі менш улады над прыгоннымі сялянамі, чым у Віцебскай губэрні.

Аднак лёс сялян праз гэта толькі часткова аблегчаны. Недахоп уласнасьці усё яшчэ вісіць праклёнам, што нясе ў сабе сумны вынік для ўсяго краю. Селянін ад гэтага прыходзіць да неабмежаванай ленасьці. Ён апрацоўвае сваё поле паводле традыцыйных прынцыпаў інэртнасьці і праводзіць большую частку года ў бязьдзейнасьці. Ён не захапляецца ніводнай зьменай, якая патрабуе працы. Ён зыходзіць з упэўненасьці, што кожная зьмена прыносіць выгаду толькі яго панам. Таму ён толькі ўгнаяе сваю гародніну, свой лён і каноплю, і пакідае свае ворныя землі ў звычайным спакоі. Без усялякага паляпшэньня, без угнаеньня, яны мусяць штогод прыносіць свае плады і такім чынам павольна набліжаюцца да разбурэньня, ці прыносяць толькі звычайны мінімум ураджаю. Калі селянін зьбірае больш збожжа, чым звычайна, ці зарабляе сабе нейкім незвычайным чынам нешта дадаковае да свайго гадавога прыбытку, то яго пан, ці ўпраўляючы адразу патрабуе лішак сабе. У падобных умовах селянін ніколі не можа здабыць ніякай уласнасьці. Неўраджаў у сваю чаргу так сама мала клапоціць селяніна, як мала яго радуе і надзвычайная ураджайнасьць. У галодныя гады пан павінен харчаваць яго. Таму ва ўсіх выпадках селянін дае волю сваёй прыроджанай ленасьці і бязьдзейнасьці.

У апошнія часы нямецкія фермеры часта арэндуюць надзелы туташніх землеўласьнікаў, каб скарыстаць на сваю карысьць высокую ураджайнасьць глебы, хаця і не ў тым сэньсе, як жыды ў Віцебску. Сяляне пры гэтым абавязаныя ў законных межах падпарадкоўвацца воле гэткага арэндатара. Падобны надзел звычайна прыдбаюць па кантракту на 12 год. Тады нямецкія фермеры, паводле рацыянальных прынцыпаў, у першыя годы як мага больш інвестуюць у надзел, каб у наступныя годы атрымліваць з яго чаканую карысьць. Калі ў першыя гады прыбытак атрымліваецца невялікім у параўнаньні з выдаткамі, то гаспадар радуецца атрымліваючы сваю арэндную плату без посьпеху з боку арэндатара. Аднак калі наступныя гады на гэтай згаладнелай зямлі даюць 4-х – 6-ці разовы ураджай, адразу абуджаецца зайздрасьць і сквапнасьць. Маюцца прыклады, калі землеўласьнік тады зьбіраў вакол сябе сваіх сялян і тлумачыў ім, што арэндатар іх падманвае і дрэнна абыходзіцца зь імі. Судзьдзі, абраныя гаспадаром зямлі, паводле сялянскай скаргі канечне прымаюць бок

падобным чынам пакрыўджаных сялян. Арэндатар паводле мясцовага права вымушаны пакінуць надзел у трэцім, максімум у чацьвёртым годзе, што землеўласьніку нават не патрабуецца асабіста ўмешвацца, каб здабыць высокія прыбыткі наступных гадоў.

Паводле гэтага можна характэрызаваць перспектывы паляпшэньня агракультуры ў гэтых рэгіёнах. Зьдзіўляе толькі тое, што знаходзяцца прагныя да заробку нямецкія фермеры, якія да свайго так званага “шчасьця” спрабуюць зноўку паўтарыць гэты шлях.

Ад недахопу уласнасьці залежыць недахоп сямейных сувязей, які характэрызуе рускіх сялян. Тутэйшы селянін не мае ніякага адчуваньня працягласьці роду. Калі спытаць яго, з якой сямы ён паходзіць, то адказам будзе: я ня ведаю. Брат, ці дзед ўнутрана ўжо зусім мала блізкія селяніну, а бакавыя родзічы другой ступені не атрымліваюць нават традыцыйнага імя, не тое што пачуцьцяў. Такім чынам кожны жыве ў сваёй унутранай ізаляцыі і прывыкае да свайго асяродзьдзя, як конь прывыкае да свайго. Вынікам гэтага ёсьць недахоп прозвішчаў, які сярод рускіх сялян зьяўляецца амаль паўсюдным. Кожны мае толькі адно імя, да якога дадаецца імя яго бацькі. Старэйшы сын падчас атрымлівае імя дзеда, каб атрымаць ланцужок узаемасувязі; у шматлікіх сыноў гэтая узаемасувязь канечне таксама зьнікае. Калі нейкі селянін атрымлівае прозвішча, у выпадку пераходу ў стан грамадзяніна, то яно паходзіць звычайна ад нейкай адметнай асаблівасьці, мянушкі і таму падобнага. Гэткія прозвішчы маюць часткова непрыгожую, часткова прыгожую натуру, як напрыклад па нямецку: той, што з гнілымі вантробамі, маленькі Міхель і г.д. Нават вольныя землеўласьнікі падчас носяць імёны, якія нават у Расіі не ахвотна вымаўляюць. За невялікія грошы кожны можа зьмяніць сваё імя; аднак з недэлікатнымі імёнамі гэта па большасьці не адбываецца.

Нашыя штодзённыя шпацыры бяз пэўнай мэты хутка пачалі губляць сваю радасьць. Штодня жоўтае бярозавае лісьце ўсё шчыльней зьбіралася на зямлі, а шкілет дрэваў рабіўся больш бачным. Стракатыя восеньскія лясы стаялі перад намі з суворым, перасьцерагальным выглядам, а цёмна-блакітныя далечы абуджалі ў нас моцную прагу падарожжаў, нібыта непераадольную тугу па радзіме, таму наш вымушаны прыпынак здаваўся нам жорсткім палонам.

І яшчэ менш асьвяжальнымі за карціны прыроды былі тыя, якія прадстаўляў нам выгляд людзей. Вяртаемся мы ў прысьмерку з самотнай прыроды назад у горад; а нам насустрач жудасна гучаць меланхалічныя галасы вяртаючых да дому сялян. Каля нас цягнуцца шматлікія вазы з пьянымі сялянамі і іх заплаканымі жонкамі. Здаецца гэтыя няшчасныя напалову адчуваюць, што яны без аніякай ўласнай зацікаўленасьці цягнуцца па чужой зямлі, што яны не маюць ніякай будучыні, і што іх мінулае таксама несяброўскі глядзіць ім у сьлед. Селянін жыве ўсяго адзін момант, і праз момант будзе пахаваны, а яго найбольшае шчасьце складаецца ў тым, каб мець магчымасьць зьнішчыць у быдлячым пьянстве таксама нават само адчуваньне гэтага моманту.

Гарадскія ваколіцы і сам горад былі менш за ўсё прыдатныя, каб прыкоўваць нас да нашага прыпынку. Хаця паліцыя і спыніла ўсе нечаканыя візыты пасьля няўдалага першага, аднак мы часта міналі людзей, якія разглядалі нас далёка больш чым з цікаўнасьці і йшлі за намі сьледам. Нават толькі ідэя падобнай радыкальнай пільнасьці прыгнятае, калі чалавек таксама яшчэ не адчувае сябе бяспечна.

Нарэшце, пасьля больш чым васьмідзённага дарэмнага чаканьня, замест нашых спадарожнікаў прыйшоў ліст са Смаленска з паведамленьнем, што яны ўжо павінны былі выправіцца ў Чарнігаў. Ліст са звычайнай рускай поштай прайшоў недзе сто вёрст шляху за поўныя 10 дзён: несумнеўны доказ таго, што пошта тут яшчэ здольная на некаторае паскарэньне і дакладна выконваецца не пешаходамі, бо яны гэты шлях адолелі б за тры дні. А казак без падставы для выхваленьня мог бы праехаць гэты шлях за 5-6 гадзін.

